УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)
Ш19

**Шамецька, Ю.**
Ш19 Шлях да вяртання : вершы / Юрась Шамецька. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 96 с.
ISBN 978-985-6976-77-6.

«Шлях да вяртання» — так сімвалічна назваў сваю першую кнігу Юрась Шамецька. Нарадзіўся ён у Мінску, дзе скончыў радыётэхнічны інстытут, а з 1997-га жыве і працуе ў Канадзе.

Ужо першыя публікацыі яго вершаў у альманаху «Беларусь», у часопісах «Маладосць» і «Дзеяслоў» выклікалі зацікаўлены водгук не толькі чытачоў, але і крытыкаў, літаратуразнаўцаў. І гэта натуральна, бо вершы Юрася Шамецькі шматасацыятыўныя, шчырыя пачуццямі і думкамі, пашыраюць прастору беларускай паэзіі.

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4Беи)**

**ISBN 978-985-6976-77-6**



Ладзе



Тут голас мне звыклы з табою знайду,
складанасць пачуццяў і роздум сумненняў,
цяпло, і завею, і плач, і нуду…
Цябе я знайшоў не на межах імгненняў.

Знайшоў твае вочы — сусветны спакой,
бяздонныя ночы, свабоду пачуццяў
і светлых мелодый чароўны настрой,
пяшчотнасці мора, імклівасці лучнасць.

Тут скрыпка іграла… Цяпер цішыня…
Спакойна, утульна спіць наша дзіця,
а мы — маладыя — на покаце дня
сядзім з неасяжным жаданнем жыцця.



Пасталелі дахі вышыні…
Я вярнуўся, каб цябе пабачыць,
горад мой, які, на жаль, я страціў
ў пошуках праўдзівай цішыні.

Зноў душа без права на змаганне
мітусіцца, моўчкі спадзяецца,
адчувае новае вяртанне
і шчаслівай нават падаецца.

Я стаю. Усё мне цешыць зрок
на праспекце у пачатку лета.
Трэба перайсці на іншы бок,
каб купіць апошнюю газету.

Не скажу, што зараз я адзін, —
мой няўдзячны лёс ідзе павольна.
Каб адчуць насычанасць хвілін,
проста так стаю, стаю спакойна.



Дзе зноў буду? Паглядзім пазней,
верыць не жадаю ў спадзяванні…
Час ідзе — мне робіцца прасцей
цёмных вокнаў адчуваць дыханне.

# Хлопчык

Калі я вярнуся?
Не ведаю, можа, к зіме.
Горад астылы,
поўны спакою,
цёмны,
забыты,
зімовы, —
будзе належаць мне.

Дрэвы вялікія, дужыя
наладжаны на цішыню…
Недзе на вуліцы хлопчык знаёмы,
стрыманы,
бескаляровы,
сустрэнецца —
не абміну.

Спытаюся: «Як справы?»
Убачу вочы і чуб,
і шапку, што мама вязала



(нітак яшчэ не хапала)…
Пазнаю…
Бо гэта цуд…

Упэўнена зразумею,
што хлопчык гэты ёсць я…
Грукатам трамвай мне ў такт
цяжкім,
каваным,
сонным —
пацвердзіць, што гэта так.

Калі я вярнуся?
Ведаю, гэтай зімой.
Адчую мой горад знаёмы,
прыгожы,
нястомлены,
новы, —
той хлопчык будзе са мной.

## Ныраючы глыбей у возера Антарыа

Вечар у верасні — цёплы і ветлы.
Ля пад’езда суседкі сядзяць.
Я на балконе, дзе песцяцца кветкі,
кніжку адкрыю і буду чытаць…
Будзе усё, як калісьці:
стомлена падае лісце.

Я паспрабую заплысці глыбей,
каб разглядзець дасканала
шалік дарогі і проста людзей
не абмінутага небам квартала.
Вецер на смак і салодкі, і горкі,
дрэвы старыя, бялізна, вяроўкі.

Кожнаму праўда свая і пятля,
кожнаму ў сталасці мудрыя спевы…
Бачу узор маладога галля,
чорныя вокны, пацёртыя сцены…



Час адыходзіць, і цяжка знайсці
шлях, па якому нам трэба ісці.

Я не шукаю вытокаў жыцця,
восенню неба схіляецца нізка…
І зразумела, што праўда уся —
ў летняй празрыстасці, ў вуліцах Мінска.
Толькі адно — немагчыма застацца
і, каб пазбегнуць кесоннай хваробы,
трэба вяртацца.



Час вяртання яшчэ не прыйшоў,
я шукаю ад дня нараджэння
сэнс свайго на зямлі прызначэння,
і яго яшчэ я не знайшоў.
Ці знайду — вельмі цяжка прадбачыць,
замірае на сэрцы спакоем
адчуванне: не стаў я героем
і свабоды прысутнасць не ўбачыў.
Прыгажосцю тваёй любавацца,
горад мой, я вярнуўся назад, —
каб удзячнасці словы казаць
дрэвам даўнім, што просяць застацца.



# Каханне

Мы любім застацца разам,
калі нікога няма.
Твой прыход стаў адказам,
нашыя словы — зіма.

Мы лічым хвіліны ў чаканні,
каб запаліць святло.
Дзень напаўняецца вечарам,
спакоем цямнее шкло.

Ты любіш слухаць мову,
я люблю глядзець.
Ты носіш з сабою ноты,
мы маем жаданне пець.

«Пра што?» — «Пра каханне», —
замаўляеш ты.
«Добра. Гэта не важна,
важна тое, што мы адны».

Час, спынены цемрай,
губляецца на скрыжаванні.
Каханне — гэта мова
нашага існавання.

Яно спрыяе вечнаму…
Добра б, каб не прайшло
жаданне знайсці падставу
зноў запаліць святло.





Калі прыйду к табе адной,
пад ценем вечара прысядзем, —
ты, намалёваная мной,
мне адгукнешся у спагадзе.

Мы будзем доўга размаўляць
пра дзіўны дзень, а ноч настане,
мы будзем разам ратаваць
жыццё, якое нас яднае.

Не патрывожаць госці нас,
не стане познім развітанне —
удзячны, незалежны час
пачуе першае прызнанне.

І на працягу доўгіх дзён
няхай дваім нам будзе сніцца
чароўны, непаўторны сон:
спакой, надзея, зараніца.



Пра тое помніць буду, што пытаеш,
ад адзіноты я цябе вяртаю
сабе. Прыйду ізноў такі, як ёсць.
Увечары, калі усе паснулі,
апошнія надзеі абмінулі,
прыйду к табе як нечаканы госць.

І ты не будзеш задаваць пытанняў.
Я прынясу табе сваё жаданне
і нават выпадковасць нейкіх слоў.
У зладжаным чаканні ночы
свабодаю пакой мы абясточым
і разам будзем, разам будзем зноў.

Хвіліны моўчкі стануць растварацца,
вакол анёлы распачнуць старацца,
каб мы адчулі: час належыць нам,
а нашы душы — толькі частка неба,
іх таямніцу разгадаць нам трэба,
каб не дзяліць надзею напалам.



## З успамінаў. Першае спатканне

*Плошча Я. Коласа ў Мінску, 27 мая 1990 г.*

— Ці памятаеш той незабыўны вечар?
— Я лёгка яго знайду.
Калі ішла на плошчу
Якуба Коласа,
ты ведала — я прыйду.

Потым казала —
была упэўнена,
што буду цябе чакаць.
Птушкі спявалі тое,
што праз пару дзён нам трэба будзе казаць.

Філарманісты ў філармоніі
працягвалі граць, як у сне.
У руках не было кветак.
Васількоў.
Менавіта гэтых тады не хапала мне.

Дык што ж,
давай будзем памятаць
гэты боскі ўзнёс
і тую хвіліну,
якая на ўсё жыццё
вырашыла наш лёс.





Неба падае з рук… Пачынаецца восень…
Светлагорскія сосны ўрастаюць у просінь.
Суцяшаюся цішай
напярэдадні ночы,
шлях шукаю з вакзала, што лёс напрарочыў.
Мне пашарпанасць сцен не дае памыліцца…
Ты мяне сустракаеш,
мне ўжо не спыніцца.
А сумненні даўно спадзяванняў не варты…
— Ты прыехаў? Паедзеш, напэўна, не заўтра?
І пяшчотна глядзіш… Небу робіцца лёгка,
Баха граць не спыняецца радыёкропка.
І збірае ў раку неба кропелькі волі…
— Без цябе я назад не паеду ніколі.



З’яўленне дзён, даўгіх бясконца,
там, дзе начныя светлафоры
святло давалі, быццам сонца,
а лямпачку на калідоры
мы не ўключалі.
Нас трымала
свабода, каб сябе спазнаць…
Жыццё нічым не замінала
свой шлях той ноччу пачынаць.
Гадзіннік цікаў неспакойна…
Было дванаццаць, можа, болей…
Лёс падаваўся выпадковым,
нібыта кніжным.
Хутка, вольна
час раздаваў жыцця авансы…
А я глядзеў табе у вочы,
каб не лічыць апошнім шанцам
чароўны край той доўгай ночы.



# Восеньскі ранак

Ад’язджаю… Па волі лёсу
аддаляюся ад цябе.
І ўзнёсласць прыцягне восень
жаўтаватым святлом к зіме.

Ўсё спакойна… Ратуе неба
адлятаючы доўгі вырай.
Ў счырванелых клёнах мне трэба
адчуваць цябе добрай і шчырай.

Словы сказаны… Вочы блізка.
«Я вярнуся», — сказаў так мала…
Колы коцяцца. Думкам хістка.
Ад’язджаю… Восеньскі ранак…



Я малюся… Цябе ўспамінаю…
Ці ты ўспомніш ужо пра мяне,
як мы разам шукалі спаткання
у раз’юшанай небам імгле.

Як мы разам шукалі вачыма
дзіўны свет — і ў яго мы ўвайшлі.
Наваколле жадала быць шчырым
да адчыненай лёсу душы.

Мы з табою тады пачыналі,
ты успомні, каб зноў ажылі
вечары незабыўных спатканняў,
даўні час, дзе мы разам ішлі.





На плошчу Незалежнасці вярнулася зіма.
Зноў поўня месяца фліртуе з ліхтарамі,
мой горад час пагадлівы вяртае,
спрыяе набліжэнню хараства.
Снег ляжа на гадзіну… Ратаваць
не трэба перапужаных галінаў.
А мне дакладна цяжка прадказаць,
дзе будзем мы праз гэтую гадзіну.
І самаходы чысцяць свежы снег,
не ведаю, як тут сябе паводзіць…
Стаю адзін, каб разглядзець выток
мінорных нотаў вышыні мелодый.

Не супыніць анёлаў вечны пошук,
а неба чорнага дакладны чысты почырк
не разгадаць…

# Маме

Я б хацеў да цябе прыехаць,
есці дранікі з малаком,
быць маленькім ў кватэры цеснай,
абагрэтай тваім цяплом.

Ты б казала, што робяць суседзі,
хто ад’ехаў, а хто памёр,
у каго нарадзіліся дзеці
і як сумна зімовай парой.

«Прыязджай без усякай нагоды», —
ты мяне зноў чакаеш і сніш,
пазнаеш мае крокі заўсёды,
праз акно у чаканні глядзіш.

Я прыеду… Мы будзем разам
есці дранікі з малаком,
размаўляць тым спакойным часам
больш пра тое, як мы жывём.





Прыснілася… Мама казала,
калі яшчэ не ад’язджаў:
«Прыедзь, засталося мала.
Хто ведае — сёння ці заўтра…»
І голас яе дрыжаў.
«Наведаем родзічаў нашых,
даўно адышлі да сну,
але не стамляюцца вечна
чакаць ад вясны вясну.
Я тут за цябе малюся,
у сэрцы заўсёды маю.
Сынок, без усякай нагоды,
прыедзь, я цябе чакаю».

# Вуліцы Мінска

Сталінскі праспект,
Ленінскі, ён жа Скарыны…
На той бок цяжка перайсці —
бясконца ідуць машыны.

Рэвалюцыйная, Камуністычная
або — Сацыялістычная…
Пужаюць вар’яцтвам мінулага —
назвы несімпатычныя.

Мне даспадобы — Радасная,
Шчырая ці нават Імклівая…
Заўсёды марыў у Мінску жыць
на вуліцы «Шчаслівая».



# З дзіцячага

*Гледзячы на дзве трубы Мінскай ТЭЦ-3*

У светлым небе дзве трубы
я бачыў кожны дзень…
Зноў мама просіць:
«Шалік цёплы
ўвечары надзень».
Трамвай прайшоў…
Я не паспеў.
Ў яго і так не ўбіцца.
Ну, хай сабе!
Яшчэ адзін мне ўначы прысніцца.
Майго дзяцінства цішыню
пабачу без памех,
бо погляд мой змясціў усё:
падлогу голую, вакно,
суседкі гучны смех.
Дзівосным колерам гарыць
фантастыка надзей.
Мой час, пастрыжаны «пад нуль»,

мне кажа: «Добры дзень».
Паўсталі рэйкі «на дыбы»
і горад-сон паплыў,
дзе выпускаюць дзве трубы
майго дзяцінства дым.
Той сон прайшоў…
Я пасталеў…
Ураніцу не спіцца…
Ну, хай сабе!
Пачаўся дзень,
каб сну не прыпыніцца.



# Залева

Калі усміхаюцца людзі,
калі адчыняюцца вокны,
нам бачыцца вельмі утульным
наш горад, закованы волат.
Тут паркі — зялёныя вочы,
а вуліцы — моцныя жылы.
Збіраюцца чорныя хмары,
ад хмараў ужо не бяжым мы…
Ідзе навальніца… Чакаем…
Прагноз абяцаў нам ад рання…
Мы разам чакаем залеву —
залеву Кахання.

# Ліст

Даўно я не пісаў табе лісты.
Нашто пісаць, калі заўсёды побач
твой тонкі твар і валасы,
што гладжу я у час даўно за поўнач.
Нам трэба бачыць глыбіню ў сабе…
Твая душа маёй душою стала…
Даўно, па нейкай дзіўнай варажбе,
я адчуваю, як яна натхняла.
Шалёны час, забыўшыся пра нас,
стамлёна станавіўся на калені,
калі душа імкнула не ілгаць,
старалася пазбегнуць чорных ценяў.
Мы разам. Ты заўсёды побач…
Лёс не спыніць і не зрабіць прасцей.
Я напісаў шчаслівы ліст — напомніць,
як доўга нам яшчэ ісці далей.



# Цені

Цені не маюць адценняў…
З лёгкасцю па правадах
перасылаюць імгненні
аб непакорлівых снах.

Дні не дадуць стаць рашучым,
і, абляцеўшы прастор,
час можа стаць балючым —
ты ж адвядзеш мой дакор.

Раптам успомнім пра ноты —
і, каб сябе адшукаць,
мы да наступнай суботы
будзем па нотах спяваць.

Музыка зробіцца сталай,
доўга трымаўшы цяпло…
Ценямі целаў каханых
будзем ляцець на святло.

# Удзячнасць

Калі халодны дзень не цешыць,
не прагне скорага вяртання,
я раскажу табе пра вечнасць,
пра шчырасць нашага кахання.

Адчуем подых дзён бязмежных,
разлічым лёсу верагоднасць,
калі разбураныя вежы
дадуць убачыць нашу годнасць.

Калі непажаданасць слоты
сумненняў разбівае факты,
я распішу, нібы па нотах,
табой пазычаныя такты.

А тое, што заўсёды побач
мне падаецца выпадковым,
тваёй душы удзячны голас
ужо мне будзе дастатковым.



Хоць лёс — імгненне да спачыну,
наколькі мне магчыма бачыць,
табе я буду, дзе магчыма,
казаць адно — сваю удзячнасць.



*Сыну Раману*

Усё ад Бога і ідзе да Бога.
Час некалі знясе да неба…
Ты запытаеш, як знайсці дарогу,
дзе будзе досыць і віна, і хлеба.

Ужо даўно закладзеныя ўмовы
і запаветы пражылі вякі,
але душа шукае выйсцяў новых
і не заўсёды роўныя шляхі.

Любі усіх, хто прыйдзе да цябе,
дапамажы усім, што толькі маеш,
рабіўшы так, як ты б рабіў сабе,
ажыццявіцца ўсё, пра што ты марыш.

Спакой на сэрцы, ў радасці душа,
будзь светлым, ясным, чыстым, добрым,
і што сустрэнеш на шляху жыцця,
рабі надзейным, шчырым, непадробным.



А што далей — не цяжка прадказаць:
усё ад Бога і ідзе да неба…
Як ні было б складана вырашаць,
жыццё дасць досыць і віна, і хлеба.



Прыйшла вясна.
Чарнее снег на полі,
сыходзіць лёд
з закованай ракі.
Зноў хутка зелень
вырвецца на волю
і птушкі прыляцяць
на саракі.
Настрой святочны.
Сонца свеціць ясна.
І цеплыня да сэрца
ўсё мілей.
Жыццё, ў жаданні
поўнае падзей,
на хвалях вечара
стварае неабсяжнасць
вясны…





У дзедавай хаце вяртаецца мова —
тут час зноў знаходзіць таемныя словы,
хоць карткі старыя зжаўцелі, вядома.
Сюды б я заўсёды вяртацца хацеў.
І еду у дзедаву хату — дадому, —
адкуль бы ні ехаў або ні ляцеў.

Пытацца не варта, на мове якой
я вас разумею на ростанях часу.
О, продкі, мы разам адчуем спакой,
калі я нябёсы бяздонныя ўбачу.
Сустрэньце пяшчотай і мудрасцю вашай —
вы бачылі болей за часам вякоў.

Падлога памыта і паліцца печ…
Усё, бы ў маленстве, мне хочацца мець.
Са здымкаў спакойныя твары глядзяць…
Гадзіннік стаіць, бо ніхто не заводзіць,
а час патаемна і цвёрда падводзіць
да думкі: тут нашыя продкі не спяць.

# Сосны

Цішыня супакоіць туманам…
Пачакаю, калі загудуць
сосны гонкія… Мне без падману
сваю мудрасць жыцця аддадуць…
Буду слухаць іх песню лясную
і, магчыма, змагу адшукаць
свой працяг. На хвіліну адчую,
што дакладна магу разгадаць…
Прыкрываючы вочы,
спытаю не раз:
«Што ёсць праўда?»
Пакіне мне час
на душы боль жывы, як зарубку,
па якой я вярнуся сюды,
каб пачуць зноў малітву пра вечнасць,
тую, што мне напішуць гады.



# Купалле

Можа, мы сустрэнемся з табою…
Ноч Купалы. Вогнішчы кастроў…
Цёплая зямля пад зорным небам
размінецца з белым туманом.
Будзем мы кружыцца ў карагодзе
і глядзець на промені агню,
і вяночак, пушчаны у згодзе,
будзе адплываць у цішыню.
Пабяжым па казачных лясах мы,
каб знайсці там папарадь-траву.
Дасць яна нам шанец на каханне…
Я яго з табою раздзялю.



«Колькі хочаш пражыць ты на свеце?
На пытанне адказу не дам», —
кукавала зязюля пад вечар,
разрываючы час напалам.

Гнаў пастух, скрозь махаючы пугай,
запаволены статак дамоў.
Па раскладзе цягнік па-за лугам
лёгка бег цеплынёвай парой.

Свой шукаючы лёс на змярканні,
позна выйшаў і болей згубіў.
Дзень прытомлены на развітанне
супакоем надзею паіў.

«Што далей?» — зноў цікавіць пытанне.
Будзе лепей, ды толькі без нас.
Цішыня у дзівосным жаданні
харастом упрыгожыць свой час.



А зязюля запэўніць пад вечар:
«Я табе ўсё ж адказу не дам.
Колькі хочаш пражыць ты на свеце —
выбіраеш заўсёды сам».



*А. С.*

У рэчкі мудрасці вучуся
і не страшуся глыбіні.
Я адчуваю, што вярнуся
у надыходзячыя дні.
Паўстануць вобразы над плынню…
Мне іх ужо не абмінуць…
Вось вечар у тумане стыне
і берагі ракі плывуць.

У рэчкі лёгкасці вучуся,
бязмежжа вечнасці цаню,
і быць сабою не баюся,
няўдзячнасць лёсу абміну.
Вучуся жыць жыццём празрыстым
і разумею, што знайду
свой шлях зямны, каб словам чыстым
душы памераць глыбіню.



## Чытаючы Марціна Хайдэгера

Пазіраю у неба — мой рэнтгенаўскі здымак,
без жадання удзячнасці, цёплых абдымкаў.
Прамяністым вачам пажадаю здзіўлення
і сабе не маруднага словам натхнення.

Разглядзець немагчыма, дзе яскравае сонца,
гулкі стогн самалёта буравіць бясконцасць.
Птушак вырай… Іх крык развітання пачую,
суцяшальную песню спакоем адчую.

Неба шэрага сферу не дбаю убачыць,
не лічу толькі тое, што павінен прадбачыць,
каб знайсці глыбіню чорнай бездані фарбы,
каб не ставіць цаны той, якой мы не варты.

Пазіраю у неба — мой рэнтгенаўскі здымак,
у жаданні пазбегнуць жыццёвых памылак,
дабаўляю ў сусвет непадробныя словы —
каляровыя рэшткі нязломленай мовы.



Збіраю час па кропельках падзей
ў дажджы жыцця з незразумелым заўтра,
дзе сэнс быцця не робіцца прасцей,
а дні лятуць непажадана шпарка.

Даўно не зазіраю ў каляндар —
парадак лічбаў ведаю выдатна.
Я Мінск стары нікому не аддам,
пакуль не разгляджу яго дакладна.

Цяпер ужо не трэба вырашаць,
дзе адшукаць патрэбныя мне словы,
каб часам патаемнае казаць
на вышыні давераную мовай.





Час упэўнены не памыляецца…
Ноч прайшла… Пачынаецца раніца…
Дзесь цягнік адыходзіць на Ніцу —
едуць людзі
салёнага мора напіцца.
А душа мая болей не раіцца…
Можа, лічыць, што
не памыляецца…

# Манрэаль

Не еду цягнікам — хайвэі,
тут Манрэаль — амаль што Вільня.
Каб зноў адчуць, як вецер вее,
я выключаю свой мабільны.

Гатэлі, паркі, гандляры,
забыты порт на тым жа месцы,
французы… Неба ад зямлі
вышэй ў Мак-Гілаўскім прадмесці.

Хаджу не так, як па сцяжы,
і брук на слых кладзецца лёгка.
Касцёлы, крамы, калажы
і цені хуткія аблокаў…

Пабудзіць раніцай анёл:
«Вярнуцца ты яшчэ павінен».
І еду, еду цягнікам,
бо Манрэаль — другая Вільня.



# Шукаючы квадрат

*З цыкла «Надпіс на здымку»*

Была пара… Я адбіраў па слову,
каб запісаць у свой пацёрты сшытак…
Ў жыцці сваім я не шукаў умоваў,
каб менш рабіць нялічаных памылак.
Аднойчы зразумеў: каб быць суцэльным,
мне трэба ведаць, як чарціць квадрат,
круг упісаць ў яго прамыя сцены,
як гэта лёгка мог рабіць мой брат.
Пайшоў у Луўр — адвечнасці парад,
каб паглядзець Малевіча квадрат.
Хадзіў і бачыў фараонаў твары…
Хрыстос распяты, грэчаскія дамы
былі са мной — я бачыў іх бліжэй.
Танчоны торс даўнішняга мастацтва
быў не па мне між сённяшніх падзей…
Але усё змянілася раптоўна,
я ўзбагацеў, нібы сівы магнат:
ў вялікай зале я знайшоў Джаконду,
шукаючы квадрат.



Будзь са мной, калі выпадзе час,
сёння горад збірае на джаз…
Гэтым вечарам ўсё напачатку:
круглы месяц, нібы залатая пячатка,
патаемныя гукі жывога мастацтва
нас наблізяць напеўна да Вялікага Княства.
Ты са мной. Ноч раскрые канверт.
Там білет на вячэрні канцэрт…
Ўсё змяшалася неяк адразу:
гул машын, святлафоры на Ottawa Road,
музыканты без фракаў,
атаўскага неба палёт,
пачуццё неабсяжнасці часу…





Купіць білет і ехаць у Еўропу,
ў сабе разбіць пануючы настрой,
каб адысці ад дзікіх паваротаў,
суцешыцца і быць самім сабой.

Застацца незаўважаным, спакойным,
забыць дарогу суму і журбы,
пабыць самотным, чыстым, вольным,
каб дужым стаць і не лічыць гады.

Купіць білет і ехаць у Еўропу,
убачыць свет, спакой і цішыню,
не адчуваць умоўнасці пяшчоты,
каб ацалець ад пылу і агню.

Быць побач з тым, што болей не здзіўляе,
калі ты разумееш прыгажосць,
дзе гоман птушак цешыць і натхняе,
дзе ты заўсёды пажаданы госць.

Купіць білет і ехаць, можа, заўтра,
адчуць прастор ды святасць хараства,
дзе цішыню мне звязваць і не варта
з імклівасцю няпростага жыцця.

Пайсці далей без выбітных падзеяў,
дажджом памыты супакоіць брук
і крокаў надыходзячай надзеі
адчуць імклівы, непаўторны гук…



# Парыж

— Парыж, твае музейныя вуліцы стамляюць
увечары. Мы п’ём віно, сядзім пад Вежай —
добрае віно ды з добрай ежай
даюць надзею і акрыляюць.
Гэта як у Шагала,
які не падабаўся ўладзе.
Апынуўся тут, а не ў Віцебску.
А мы без ідэяў
блукаем па залах бясконцых музеяў,
без патрэбы ў перакладзе.
Парыж, ты — прастора свабоды,
расчыненая жыццём,
ты веліч музея без яскравых неонаў,
з Нотр-Дамам, духам Напалеона,
Монай Лізай пад куленепрабіўным
шклом.
Разумею толькі тут, што свабода —
гэта жаданне
не перашкаджаць іншым і быць
самастойным.

Бульвар Сен-Жэрмен выглядае прыстойна,
як яго апісваў Хэмінгуэй у чаканні прызнання.
Увечары, едучы ў метро, назіраю французаў:
старэйшы, яна здаецца цікавай,
ён абдымае яе ласкава,
а мне хочацца верыць, што ён не лузер.
Горад мяняе каляровыя малюнкі,
хуткасць — больш за дваццаць
чатыры кадры.
Ты не згубішся на Манмартры,
бо выйдзеш да Мулен Руж
з любога кірунку.
Парыж, застацца з табой немагчыма —
мы едзем дамоў, у наш далёкі
і дзіўны край,
дзе холадна і выраі птушак завуць
неспакоем у рай…
Бывай.





Пазваню… Ты адчыніш мне дзверы
і шапнеш: «Я чакала цябе».
Без надзеі шукалі даверу,
мы так доўга ішлі па журбе.
Каб забыцца суцэльнасцю неба,
ты не будзеш ужо замінаць
цалаваць тваё гнуткае цела,
асалоду кахання шукаць.
Будзе ноч і бязмежнай, і горкай,
безагляднай… Як быццам бы зноўку,
нам не зробяць маўклівыя зоркі
рай нябёсаў шурпатым і колкім.
Час начны… Мы натхнёныя шчасцем…
Не стамлюся цябе маляваць.
Сапраўды, хай нас чуюць суседзі,
я прыйшоў да цябе не маўчаць.



Ну вось і ўсё: закончыўся палёт,
мой час прайшоў, Атава пахне домам.
На гэтым не спыняецца жыццё,
а я — ужо ляцець назад гатовы.
Дом — гэта тое, што заўжды чакае
раскіданых па вуліцах жыцця…
Усё часцей як жыць —не выбіраем
у адчуванні свята хараства.
Ляцім туды, дзе цёпла нам і ўтульна,
дзе сэрца марыць быць заўжды ў спакоі,
каб ведаць, што і сёння нас ратуе
цяпло жадання прыляцець дадому.
Калі ж іх два — за гэта дзякуй Богу.
Зноў мару пра далёкую дарогу…



# Малюнак

На тым баку ракі — Квэбэк.
Пейзаж нябёсаў вельмі мілы.
Французскі лейтэнант, кадэт,
вядзе па беразе дзяўчыну.
І сонца хіліцца, бо час
адчуць прыемныя жаданні…
Не чутна слоў —
не цяжка прадказаць
пра што гаворыць вечар ідэальны.
І цягнецца жыццёвае цяпло
да вечара, ў якім яны як госці…
Душа з пяшчотай прыняла яго
малюнкам простым светлай прыгажосці.

# Пад канец спякотнага дня на Сярэбраным возеры

Дзіўныя песні пяю я табе у чаканні кахання.
Доўгія рэкі цякуць — не зважаюць увагі
на межы.
У сонцы пяшчотным шукаем цяпло
ратавання.
Не адчуваем свабоды і суму разбураных
вежаў.

Мы успрымаем жыццё па напісаных кнігах.
Новыя думкі прыходзяць пад небам высокім.
Нашыя справы — працяг незапісаных міфаў.
Мы адчуваем і бачым празрыстасць аблокаў.

Сонца спякотнае моўчкі садзіцца пад вечар.
Мы застаёмся пабачыць заход праз гадзіну.
Ценем ад сонца ратую твае падпалёныя
плечы.
Дзень у чаканні працягу пакорліва стыне.





Канадыйская восень…
Кожны год, кожны раз
хараство дамінуе,
прыпыняючы час.

Сонца вельмі высока,
жоўты край небасхілу,
клёны, букі і сосны —
ўсё здаецца адзіным.

Ў цішыню і бясконцасць
адыходзіць дарога,
каляровасць імгненняў
набліжае да Бога.

Птушкі крыкам зычлівым
прадракаюць мой лёс:
ад зямлі адарвацца,
каб дастаць да нябёс.

# Сябрам

Цёплы вечар абудзіцца,
супакоіць туманам —
усё добрае збудзецца,
тое ўсё, пра што марым.

Подых восені журыцца
там, дзе дрэў сілуэты…
Усё добрае збудзецца,
незалежна ад мэты.

Чырвань клёнаў астудзіцца,
птушкі ўдаль адлятаюць —
усё добрае збудзецца,
не састарыцца памяць.

Па-за клёнамі вуліца
мне напомніць аб нечым…
Усё добрае збудзецца,
будзе шчырым і вечным.



Хай душа не разгубіцца,
цішыню не мінае,
усё добрае збудзецца,
дзесьці станецца намі.



Дні вераснёўскія натхняюць
сказаць, хай не ў апошні раз,
што я цябе цяпер кахаю,
як і тады, у даўні час.

Мы будзем жыць у спадзяванні:
Бог не разлучыць болей нас,
дасць нам знайсці выратаванне,
як і тады, у даўні час.

Святлом пяшчотным млее сонца,
і недзе зноў іграюць джаз,
прарочаць шчасце і раскошу,
як і тады, у даўні час.

Час крочыць шпарка і нястомна
і дасць сказаць яшчэ не раз,
што я цябе цяпер кахаю,
як і тады, у даўні час.



# Локі*

У чаканні зімы і першага снегу
чытаю гісторыю роду Сапегаў…
Непужаныя марцірамі тутэйшыя жыхары
не цікавяцца часам той далёкай пары.
«Хопіць чытаць гістарычныя міфы.
Едзем на локі, у месцы забытым
птушак пабачым,
гатовых к адлёту», —
кажаш ты мне.
Я кідаю з ахвотай
свой надакучлівы net.
Едзем на локі у спадзяванні:
восень падорыць на развітанне
шчодры букет цішыні,
сплецены з птаства,
халоднай вады,

---

* Локі (*анг.* lock — шлюз) — месца пад Атавай, дзе пабудаваны адзін з шматлікіх шлюзаў, што спалучаюць раку Атаву з ракой Св. Лаўрэнцыя.

дрэў распранутых,
чуйных на вецер…
Так вось і нас паразносіць па свеце…
Дзе вы, сябры?



# Дні

Дні складаю ў тузін старых газет.
Некалі пажадаю вярнуцца,
каб пагартаць падзеі…
Газета — гэта вельмі стары інтэрнэт,
дзе можна знайсці, па колькі мянялі леі.
Леі — гэта румынская валюта,
да якой у мяне няма ніякіх спраў.
Хвалююся, што буду рабіць у лютым:
крызіс цісне, каб ніхто не спаў.
Дні пралятаюць… Абама абяцае белае —
чакаю, калі скончацца чорныя дні зімы.
Стараюся згуртаваць мэты жыцця ў цэлае,
гэта — бязглузда, як вядзенне вайны.
Дні — толькі падстава нешта рабіць,
усё вырашана непрадказальнай доляй.
Не хочацца быць філосафам,
хочацца проста жыць,
каб глядзець, як хвалююцца дрэвы ў ваколлі.

# Крызіс

Крызіс побач.
Маразматычна-капрызны…
Набліжаецца па тэлевізіі,
бачыцца ў інтэрнэце,
чытаю пра яго ў апошняй газеце.
Ўсё адбываецца хутка, маркет ставіцца рубам,
падаюць стокі*, як у чорную стопку бульба,
Амерыка шукае перспектыўныя кірункі,
каб падлічыць незлічонасць рахункаў.
Усё па законах дуалізму.
Крызіс — гэта чорнае на чыстай бялізне,
а мяне цікавяць асновы таізму,
ён даўно аб'яднаўся з будызмам.
Можа, трэба таксама аб'яднаць
два ды два, каб не атрымлівалася пяць.
Усе думаюць, што будзе горш,
я думаю інакш…

* Стокі (*анг.* stock — уклад) — грошы, якія ўкладваюцца ў эканоміку, каб атрымаць дадатковы працэнт.



Мы варым на кухні боршч.
Сяджу, п'ю каву, чытаю газету,
ем сушы,
правяраю стокі ў інтэрнэце…
Адчуванне такое, што губляю час,
а можа, гэта крызіс забыўся пра нас?



Завітаю ў бок
        старадаўняй сталіцы,
край свабодны і чысты
        даўно мне не сніцца.
Светлай ночы не бачу
        на вакзале магутным,
я таксоўку чакаю
        на плошчы бязлюднай…
Галава не баліць
        ад сумненняў і фактаў…
Час начны…
        Не праверыш дакладнасць ландшафту…
Двор стары, сустракай —
        нам спатрэбяцца міфы,
з прывітаннем маўчаць
        птушкі ў небе сафітным.
Я прыехаў ізноў,
        я з сябрамі сустрэўся,
у чаканні зімы
        родным домам сагрэўся,



а халодны праспект
        лёгкім сумам праняты:
шлях шукае дамоў
        горад, небам распяты.



Вецер… Атава… Хочацца верыць,
што неабсяжнасць лёгка памераць.
Час безумоўнасці з’явіцца ўранку,
зноў падтрымае птушка на ганку,
што не ляціць, бо нешта чакае…
У спадзяванні неба світае
і, пры жаданні, зноў выклікае
радасць пявучасці роднага краю…
Мне не патрэбна ехаць у Мінск —
сёння у Мінску сябе адчуваю.



## Набліжэнне зімы

Халадае…
Птушка, якая садзілася на паркан
і спявала мне,
болей не прылятае.

Ападае
апошняе лісце. Збіраю яго,
аб леце ўспамінаю.

Вечарэе…
Цішыня спрыяе холаду.
У каміне распальваю агонь,
які добра грэе.

Мару
быць надзейным і шчырым.
Ўсё астатняе маю.
Хоць птушка, якая была маёй,
болей не прылятае.

# Пазл*

Па дзвюх дарогах не пайсці —
я тут не выбіраю.
У думках час не абысці —
не ведаю, што далей…
Расце сунічнік на двары…
Часцей мяне вяртае
ў дзіцячы лес, да той пары,
якой даўно не маю.
Змяняе правілы парой
свабода на выгнанні,
яна здаецца мне гульнёй,
гульнёй выпрабаванняў.
Сухі дрымотнік на вакне
дзяцінства мне вяртае…
Няпросты пазл на стале
з пражытых дзён складаю.

* Пазл (*анг*. puzzle) — праблема ці задача, якая правярае кемлівасць таго, хто гэтую праблему вырашае.





Дзень мінуў… Я ведаю адно —
немагчыма распачаць спачатку:
у жыцці расстаўлена даўно
прадказальнасць цвёрдага парадку.

Ўсё адзіна — дрэвы і трава,
музыка і ціхі подых ветру,
словы, праўда, цёплая ралля,
мяккае і чуйнае паветра.

Як знайсці адказ, што ёсць жыццё,
хто чакае нашага вяртання?
Вельмі лёгка, калі гэта Бог —
ўсё складаней, і у гэтым тайна.

Мы адзіны, цела і душа,
пустата і глыбіня імгненняў,
вочы, мова, посная куцця,
пагудасты лес неразумення.

Што зрабіў — зрабіў зусім не так…
Як хацеў… А можа, я не ведаў,
што прайсці наканаваны шлях —
наша вызначальная патрэба.

Вечарэе… Адыходзіць дзень,
не знайшоў, як разгадаць загадку,
і няспынна думаецца мне:
быў бы шанц —
пачаў бы ўсё спачатку.



# Пачатак зімы

1

У Мінску рана — тры гадзіны ночы.
Яшчэ не сплю — ў Атаве толькі восем…
У прагны час, каб не бурыць святочнасць,
на сем гадзін працягне вечар восень…
Тут дрэвы не пазначаны на мапах,
«Шато Лаўр'ер»* мне адчыняе дзверы…
Вось цяжка цягнуць ваяры гарматы
на помніку… Мне іх не бачна веры…
Веленавым святлом цякуць хвіліны
па вуліцах… Зусім не разумею —
чаму губляюць годныя ліцвіны
свой шанц апошні… Цёмны вечар грэе…
Я ж слухаю эфірны шум прасторы…
У Мінску — тры, а мне няма жадання
зноў аб'язджаць дарожныя заторы
і не лічыць свой шлях выратаваннем.

* «Шато Лаўр'ер» — гатэль у Атаве.

2

Зіма… Няма куды спяшацца…
Жыццё лірычным вернецца настроем,
анёлы пастараюцца застацца —
малююць неба фарбай неспакою.
Мне не знайсці (не чутна нават слова)
свой шлях, што застаецца выпадковым…
Іду адзін, каб адшукаць святое,
наіўнае, жывое наваколле…
Няма праспектаў, толькі ёсць хайвэі.
Не разважай… На газ мацней націсні…
На хвалях радыё мажорны вецер вее,
і раніцай тут малако не кісне.
А голас вечнасці праўдзівы вецер сее…
Надвор'е кепскае, а горад не пусцее.
Ў маім жаданні восень не старэе…
Халодным днём «Шато Лаўр'ер» сагрэе…



3

Пачатак там, дзе скончыцца жыццё,
дзе кожная хвіліна — адкрыццё
адлюстравання… Светлым сном астыў
мой горад, што няспынна, ціха плыў,
а потым перайшоў на жорсткі бег…
У парк іду… Кладзецца першы снег…
Халодны край паўстане ў поўны рост,
мне вершам нагадае Роберт Фрост
пра восень, без жадання даказаць,
а толькі ісціну забытую сказаць:
калі ў цябе ёсць хоць адзін чытач,
то варта вершы для яго пісаць,
і чуць свой голас ў поўнай цішыні,
і разумець, што больш вы не адны…
Раку Атаву Свіслаччу б назваць,
каб ведаць далей, што яшчэ чакаць.

4

Зноў восень адступіла ад сталіцы,
і конніца непадуладных лісцяў
не вернецца… Ёй болей не спыніцца…
Па лужах скачуць спрытныя сініцы…
Я неба падзяляю на кварталы,
тут сцёк вады пралічаны дакладна…
Вось толькі часу засталося мала —
прастора слова выдалена з заўтра.
Ужо без спадзявання на нябёсы,
каб не губляць апошнюю магчымасць,
раблю свой крок насустрач снам і лёсу
і не пытаю: «Дзе ж яна, айчына?»
Мне годным падаецца лёс аддаы,
«Куды ісці?» — здаецца, не пытанне…
Далёкі край зноў хараство стварае,
і чысты снег над горадам лунае.



# Першы снег

Першы снег выпаў вельмі рана,
у кастрычніку. Калі такое было?
Дрэвы, распранутыя восенню вяла,
цягнуцца да мяне, каб зберагчы цяпло.
Яны, зашклёныя лёдам,
нібы на парадзе модаў.
Жоўтае лісце, распужанае ветрам,
лётае без намеру трымаць такой жорсткасці.
Фатограф па вуліцы бегае, здымае,
 каб не прапусціць гэтае прыгажосці.
Аўтобус спыняецца….
 Ўсё ў парадку з тармазамі.
 Снег падаецца наіўным,
як вось тая дзяўчына з доўгімі валасамі.
 Раніца… Вецер…
 Сонца не бачыцца вольным.
А-а-а… Тут не ўсё можна купіць за «баксы».
Снег б’ецца ў вокны,
каб даказаць гэта сёння,

а я назіраю ваколіцу
        праз акно цёплага Старбакса*.
Людзі бягуць хутка…
        Хаваюць твары ў плечы,
разумею, гэта ад холаду,
а не ад жадання бегчы.
Дзяўчына згубіла шапку,
ейны маладзён ловіць.
Яна падае, смяецца яшчэ весялей.
Ім хочацца быць шчаслівымі,
        хоць на пару дзён,
а потым вызначыцца,
што трэба рабіць далей.
І мне не трэба спяшацца — сёння субота.
На снег гляджу доўга,
        як той хлопец з кніжкі пра ідыёта.

* Старбакс (Starbucks) — невялікія кафэ, распаўсюджаныя ў Паўночнай Амерыцы.





*Таццяне*

Зайшлі у цёплую кавярню,
каб выпіць кавы ля акна.
Здаецца, час праходзіць марна
ад недаступнасці цяпла.

Сядзелі, у акно глядзелі.
Зноў гаварылі ні пра што:
пра учарашнюю завею
і пра апошняе кіно.

Паклалі грошы і пайшлі…
А дні ішлі, а дні ляцелі —
сугучнасць з вечнасцю знайсці
ў час неабсяжнасці завеі.



Мне вельмі утульна жывецца на вечнай зямлі,
дзе ведаю: морам да сонца плывуць караблі
і падаюць зоркі... У небе бяздонным лягчэй
знайсці неабсяжнасць тваіх бездакорных
вачэй.
З вяршыняў мелодый заўсёды хутчэйшы
сыход,
складанасць дарогі растопіць падатлівы лёд.
Снег падае доўга... Цячэ па стамлёнай шчацэ...
Таката і фуга Сафіі падобны шырокай рацэ...
А голас арганны запомніць каханасці край...
Ты ціха прамовіш, калі я пайду: «Пачакай...»
І ясна адчую, які застанецца мой след,
таму са спакоем гляджу на сыходзячы снег.





Усё часцей хачу пабыць адзін,
паліць агонь на апусцелым полі,
дзе вецер лёгкі думкі мне прагоніць,
не злічыць лёс бязлітасных гадзін.

Усё часцей мне хочацца спазнаць
сэнс існавання у святле бязмежным,
закон сакральны неба разгадаць,
каб зразумець, каму мы ўсе належым.

Усё часцей хачу я аднаўлення —
больш у сабе, хай будучыня скажа.
Не будзе нас, а вынікі стварэння
сам лёс пакіне для нашчадкаў нашых.

Палю агонь на апусцелым полі,
ламаю сучча і ў агонь кідаю,
а цеплыня ахвярна нагадае,
што час ідзе, ідзе пакуль паволі...

◊ ◊ ◊

Дзверы адчынены — халаднавата…
Непадуладнаю сталасці волі,
бачу душу сваю чорным квадратам
на неабсяжным заснежаным полі.
«Ты ж не малюеш колерам чорным —
ўсе ужываеш, толькі не гэты», —
кажа душа мая, каб супакоіць,
сум засланіць і не верыць прыкметам.
Не адчуваю вечара холад,
чуецца, недзе светла і роўна
скрыпка іграе, быццам бы побач:
«Слухай мяне і не думай аб чорным».
І падтрымае ветрам спакою,
голасам спелым, шчыра і поўна…
Я ж яе музыкай словы настрою…
Час надыходзіць, дзе ўсё будзе добра.



# Небу

Не заві ты мяне —
                я з табою ніколі не буду.
Я не буду надзейным,
                упэўненым, выратавальным.
Не пазбаў майго шчасця
                апошняй хвіліны
стаць свабодным,
                імклівым, заўжды прадказальным.
Ты мяне супакой.
                Кожны дзень супакой развітаннем,
шчырым сном цішыні,
                непадробнасцю праўды,
ці надзеяй,
                што скончыцца нашым вяртаннем,
і жыццём без праблемаў
                і думак «Што заўтра?»
Ты — мой даўні прытулак
                бясконцых малітваў,
негартаная кніга падзеяў,
                і думак сусвет, і шчаслівыя ноты

натруджаных, годных учынкаў, і птушыных вандровак
пакінуты след.
Не заві ты мяне —
я з табою ніколі не буду, даспадобы зямля
у жаданні знайсці
патаемнасць душы,
што імкнецца паўсюдна
да вышыняў жыцця,
па якому так доўга ісці.





*В. Няхаю*

Мы — лісце на дрэве жыцця.
Расцём і красуем увесну.
Улетку мы дорым спакой
жыццю і няспыннаму лёсу.

А восень настане… Пара…
Мы ўсе адлятаем.
Ляцім, у бязмежжы знікаем
і ведаем: будзе зіма…

А потым вясна зноў настане…



Пайшоў у поле — стаць халодным ветрам,
каб паляцець над вечнасцю зямлі
і аб'яднацца з цішынёй сусвету,
не шкадаваць дні тыя, што прайшлі.

Пайшоў у лес — каб стаць высокім дрэвам,
каб моўчкі зразумець, куды ляціць
у восень лісце. Голас патаемны
падкажа, як жыццё абараніць.

Пайшоў да рэчкі — стаць павольнай лодкай,
каб плыць і бачыць хараство вакол,
і адчуваць чароўную лагоднасць
сваёй душы, надзею і спакой.

Ды не вярнуць той час, які прайшоў,
нам не вяртацца, а ісці наперад,
каб стаць сабой, яго пачуўшы зоў,
якому немагчыма не паверыць.





Што робіцца з душой,
калі пакіне цела?
Адказаў шмат.
Праверыць не магу.
Магчымы варыянт:
душа ўзлятае смела,
а я па полі хлопчыкам бягу…
Дарога адыходзіць… Вечар цёплы…
А за дарогай млее райскі сад…
Ад адчування шчырасці пяшчотнай
няспынны час вяртаецца назад.

# З мамай у навагоднюю ноч

Чытаю твае віншаванні
з навагодняй паштоўкі.
Пастаўлю паштоўку на стол
і вып'ю горкай настойкі.
Раскручаны час-махавік
не спыніцца на хвіліну —
зязюля працягне лік,
і светласць мелодый нахлыне.
Святочны горад не спіць,
салютам квітнее неба,
і новы год прыляціць
надзею з'яднаць з сусветам.
Пачуеш мяне, бо лягчэй
душою здалёк убачыць,
калі я з тваіх вачэй
слязой паплыву гарачай.





Зіма адыходзіць апошняй завеяй і слотай.
Чакаючы радасць, збіраю апошнія дні.
На сопках далёкіх блукаю ў пячорах
і гротах —
мне вольна жывецца у межах зімовай пары.

Адзін застануся — я тут не сумую, не плачу.
Ў чаканні цяпла падбадзёрыць засмучаны
дождж.
І позіркам даўнім душа нечакана адзначыць:
не лепей жытнёвае сонца за чорную ноч.

Свабода — умоўнасць, жыццё —
выпадковасць,
а лёс успрымаецца як негатоўнасць.

Няроўна ляцець паміж небам, снегам
і ветрам.
Нязручна. Ужо не звяртаю увагі на сны.

Я дыхаю, дыхаю шчодрым халодным
паветрам,
а словы-падлеткі чакаюць удзячнай пары.

Мне хочацца белага, белага снегу,
каб хоць на хвіліну з табой перайсці зноў
на «Вы».
Мне хочацца страціць прытомнасць
ад доўгага бегу,
не думаць пра тое, якія пакінем сляды.

Я слухаю моўчкі — з надзеяй чакаю,
а голас айчынны ўжо не спазнаю.





Дым плыў у напрамку возера,
палілі агонь увечары,
садзілася сонца доўгае,
каб весці размовы вечныя.

Каму гэта трэба полымя,
што цешыцца, ды не гасне?
Каму гэта трэба сонца,
якім яно грэе шчасцем?

Мой час яшчэ не спыняецца,
агонь і сонца адзіны,
і сніцца мне кожную раніцу
твой позірк, такі праўдзівы.

Не трэба старацца вырашыць,
што будзе — то будзе з намі,
а мы праз размовы аб вечным
адчуем, хто ёсць мы самі.

# На возеры

*С. Ф.*

Бярозавай кары я пакладу кавалак
і падпалю ужо сухія шчэпкі,
каб музыка спакою нагадала
агнём рухавым пра жывыя кветкі.
Час чысціні не зробіцца падманам…
Вось праспявае недзе птушкай дальняй,
накрые возера, растворыцца туманам
вакольнага святла недатыкальнасць.
Цямнее лес, становіцца умоўным…
Знайсці мяне ніхто не намагае…
Злятае з елак цішыня скупая,
і позірк мой з паветрам супадае…
І хтосьці шэпча мне: «Павер…»
Цячэ ручай з вадой выратавальнай…
Я слухаю, каб заслужыць давер
у возера душы непрадказальнай.





Цішыня застанецца попелам
ад агню, што палілі да рання,
а душа мая робіцца сокалам —
адшукаць сабе шлях да вяртання.

# Змест

---

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Шамецька** Юрась

ШЛЯХ ДА ВЯРТАННЯ

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *В. Андрэева*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *В. Андрэева*

Падпісана да друку 14.03.2011. Фармат 70x108 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 4,2. Ул.-выд. арк. 1,85.
Тыраж 300 экз. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.